Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 6 (58) | Вільня, 25-га сакавіка 1935 г. | Год 3-ці.

## У семнаццатыя угодкі.

(25. III. 1918—25. III. 1935).

Штогод беларускае грамадзянства ўрачыста адзначае дзень 25-га сакавіка, як вялікае нацыянальнае сьвята. Штогод сьвядомыя беларусы належна ацэньваюць вялізарную важнасьць таго факту, які ўсё больш і больш адыходзіць у мінуўшчыну. Маладое беларускае пакаленьне, ня быўшае сьведкай падзеяў, якія адбываліся на Беларусі ў часы ваеннай і рэволюцыйнай завірухі, ужо ўзгадоўваецца на нашай маладой адраджэнскай гісторыі.

Чым-жа адзначыўся гэты дзень 25-га сакавіка 1918 г. ад іншых дзён, жудасных дзён вайны й рэволюцыі, якія агнём і мячом прайшлі праз наш край?

У гэты дзень было сказана тое, што сягоньня ўсім нам здаецца такім зразумелым і натуральным. Прадстаўнікі беларускага народу, сабраныя ў Радзе Беларускае Народнае Рэспублікі, абвесьцілі ўсяму сьвету, што Беларус хоча быць гаспадаром у сваім краі — абвесьцілі Беларусь **незалежнай і вольнай Дзяржавай.**

Гэтая „Устаўная Грамата“ была сьмелым выражэньнем нацыянальнае сьвядомасьці Беларусаў, была вынікам тое нацыянальна - адраджэнскае працы, якая ад рэволюцыі 1905г. глыбака пусьціла прарасткі **ў народную масу.**

Грамата гэтая, для нас такая простая, была на той час сапраўды **сьмелай.** Калі мы глянем у гісторыю разьвіцьця нашае палітычнае думкі, то пабачым, як доўга яна калыхалася на гарачых хвалях уплываў захаду й усходу. Гэтае зьявішча мы лёгка вытлумачым, калі прасочым засяг і глыбіню беларускага адраджэнскага руху. Масавым рух беларускі робіцца толькі ад рэволюцыі 1905 г. Сусьветная вайна і расейская рэволюцыя, якія шмат чаму навучылі беларускія народныя масы, яшчэ больш яго разварушылі.

І таму нічога дзіўнага, што пры такой адпаведнай хвіліне, калі падалі апошнія ланцугі векавога царскага ўціску, калі падняволеныя народы пачалі на руінах турмы народаў будаваць сваё самастойнае жыцьцё, і беларускі народ падняў свой голас.

Вось чаму абвешчаньне незалежнасьці Беларусі — гэта ня выдумка кучкі інтэлігентаў, а выражэньне сільнага імкненьня прыгнечанага вякамі, социяльна і нацыянальна, народу да волі і жыцьця.

У гэтым якраз і зьмяшчаецца вялікае гістарычнае значэньне факту абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Бо-ж толькі той народ, які выяўляе імкненьне да самастойнага, незалежнага жыцьця, і можа жыць.

Сформуляваньне, якое атрымала гэтае імкненьне ў дзень 25-га сакавіка, сталася путэводнай зоркай беларускага адраджэньня, сталася ідэалам, які, нажаль, семнаццаць гадоў таму назад мы зьдзейсьніць не змаглі.

Затрашчэлі кулямёты і ізноў шляхі і пуціны нашага жыцьця зрасіліся, як і раней, „беларускаю буйнай сьлязою“.

Разглядаючы падзеі 1918 г., якія ўжо ў вялікай меры атрымалі права на гістарычную ацэнку, мы можам выкрыць прычыны няздзейсьненьня ідэалу незалежнасьці. З недалёкае нават гісторычнае пэрспэктывы мы пабачым, што інакш і не магло быць. У нас была палітыка, але ня было стратэгіі, была маса, але ня было арганізацыі, у нас было імкненьне, але ня было сільнае волі народу. І зразумела, што права сільнага ўзяло верх. Тых-жа далёка-зорных адзінак, якія ў той час даацэнівалі гэткі наш стан, не разумелі, а часта і не хацелі разумець. Высокая тэмпэратура нашага грамадзка-палітычнага жыцьця мела фатальныя вынікі.

Было ўжо запозна, калі Случчына паднялася з аружжам у руках бараніць волю і незалежнасьць Бацькаўшчыны. Гэта была лебядзіная песьня.

А далей—гэроічныя высілкі, вясеньнія надзеі, маршы беларускіх вайсковых аддзелаў з польскай арміяй, і ўсё-ж — у апошнім выніку—сумная сапраўднасьць. Яшчэ клубіўся над беларускімі абшарамі дым ваеннае завірухі, а ўжо ў Рызе вырашалася далейшая гісторыя беларускага народу.

Прайшло з тае пары шмат гадоў.

Беларуская палітычная думка прайшла яшчэ адзін этап, выяўляючы ізноў нязвычайнае імкненьне беларускага народу да самастойнага жыцьця.

Савецкае будаўніцтва, грунтованае да 1928 году на прынцыпе тварэньня нацыянальных арганізмаў, скіравала ўвагу ўсіх беларусаў на ўсходнюю Беларусь. Палітыка Грабскіх, у адносінах да беларусаў, зразумела, толькі ўзмацоўвала сымпатыі да палітыкі Саветаў у нацыянальным пытаньні. І хоць палітычная сувэрэннасьць Савецкае Беларусі насоўвала тыя ці іншыя засьцярогі, то пакрываўшае іх культурнае будаўніцтва ствärала як-бы сапраўды новую залатую пару Беларусі. І нічога дзіўнага ў тым, калі беларусы лічылі тады, што на ўсходзе будуецца беларускі дом.

Адбой, які наступіў у палітыцы Саветаў, пачынаючы ад 1928 году, калі ня зьнішчыў зусім папярэднія культурныя асягненьні, то выразна спыніў далейшы іх узрост. Наступіла рэакцыя настолькі жорсткая і незразумелая, што нават нашы пасы, якіх самі бальшавікі абмянялі з Польшчай, або сядзяць цяпер у Савецкіх вастрогах. або нават растраляны. Беларускія вучоныя і пісьменьнікі праследуюцца, ссылаюцца „в места нестоль отдаленныя“, „урадовая“ беларуская мова русыфікуецца, чужыя беларусам людзі займаюць кіруючыя становішчы і г. д. Зьмены на ўсходзе паволі зьмянялі напрамак беларускае палітычнае думкі і ў нас, — у сучасны мамэнт ён, бязумоўна, не на ўсход.

Магнітная стрэлка беларускае палітыкі, пасьля столькіх адхіленьняў і дрыжэньняў, усё больш і больш орыентуецца на сілы свайго народу.

І паскольккі народ імкнецца да самастойнага жыцьця, то і ідэал незалежнасьці Беларусі будзе галоўным мамэнтам беларускае палітычнае думкі.

Адная зьдзейсьненьне гэтага ідэалу незалежнасьці ня прыйдзе так хутка, як некаторыя сабе ўяўляюць. Мала пустых дэмагогічных лёзунгаў і прыгожых дэклярацыяў,—трэба лічыцца з сапраўднасьцяй. Трэба знайсьці рэальна-конкрэтны шлях дзеля асягненьня пастаўленае мэты. Трэба дамагацца стварэньня такіх варункаў жыцьця, каб беларус, як грамадзянін дзяржавы, мог жыць і разьвівацца культурна, нацыянальна і эканамічна. Значэньне такой пастаноўкі справы ўжо належна ацэнена і пазытыўная праца ахоплівае ўсё большыя і большыя кругі беларускага грамадзянства.

## Бальшавікі апранаюцца ў буржуазную форму.

Амэрыканскі газэтны трост Хэрста паслаў свайго корэспондэнта Нікэрбокэра ў СССР на пачатку бягучага году.

Нікэрбокэр езьдзіў у Саветы таксама і чатыры гады назад. Ён робіць параўнаньне тагачасных і цяперашніх сваіх уражаньняў і ў адной з сваіх корэспондэнцыяў, між іншым, расказвае:

— За апошні год палепшыліся варункі жыцьця савецкіх грамадзян. На галоўных вуліцах Масквы ўжо не сустракаем людзей басаног. Крамы на Пятроўцы і харчовыя магазыны поўныя тавару. Рэстараны не прыпамінаюць болей вартых жалю шынкаў.

Яшчэ чатыры гады назад выгляд Пятроўкі, Цьверскае вуліцы, Кузьнецкага масту быў страшэнны. Гэткіх галодных, пажабрацку апраненых, стомленых людзей нельга было ўбачыць ні ў адным горадзе, заселеным людзьмі белае расы. Ніводзін народ, ні пры якой дэмакратыі, ня мог-бы вытрымаць пяцёхгодкі. Каб прымусіць вытрымаць гэта, патрэбна была жалезная дыктатура. Але нават і гэтая бязьлітасная дыктатура павінна была прызнаць, што апошняя ступень роспачы жыхарамі ўжо дасягнена.

А цяперашні натаўп на Пятроўцы зусім зьмяніўся і найболей кідаецца ў вочы зьмена галаўнога ўбору жанчынамі. Ня відаць ужо нехарозных хустак на галовах. Вялізарная большасьць жанчын, нават найбяднейшых, носіць бэрэты.

Яшчэ вельмі нядаўна ў Маскве нельга было ўбачыць прыгожых жанчын. У іхняй грубой рабочай вопратцы іх нельга было адрозьніць адну ад аднае. Затое цяпер вуліцы Масквы проста зіхацяць жаночым хараством. Усё ачараваньне расейскае жанчыны ярка выступіла ў буржуазнай вопратцы.

„Буржуй“! Гэтае слова ўчора яшчэ было лаянкай. Гэтак называлі кожнага хораша апраненага чалавека. Гэтага болей няма. Пэліганцку апраненае амэрыканкі на вуліцах Масквы ўжо не разглядаюць з пагардаю, а з уцехаю і пажаданьнем. Імкненьне маладое расейскае жанчыны да заходніх вопратак проста ўзварушае. Прыехаўшая нядаўна з Парыжа турыстка неспадзявана зайшла у свой номар отэлю і застала ў ім усіх пакаёван гэтага отэлю, каторыя з вялікіх аркушоў паперу рабілі сабе „кэпіі“ з вопратак чужаземкі.

Выходзяць ужо савецкія журналы мужчынскіх і жаночых модаў. Мужчынскія журналы ілюстраваны партрэтамі франтаў у візытках з адным гузікам, у паласатых нагавіцах, з палачкаю, у рукавічках, у мягкім капялюшы.

„Атэльье“ на Кузьнецкім мосьце зьяўляецца цэнтрам савец. моды. Вячэрняя вопратка ў ім каштуе 1000 р., падвячэрняя—600 р..,

Калі не падлівае крыху гумару амэр. корэспондэнт, дык Масква запраўды скідае „вопратку рэвалюцыі“ — шэрыя *папахі* ды шынялі франтавікоў і стараецца апрануць буржуазную форму.

# Рухі сярод эўрапейскай моладзі.

(Гл. № 4 „Род. Кр.“).

У гэтым самым часе па ўсей Італіі грыміць імя Бэніто Муссоліні. У кінах, на ілюстрацыях часопісяў—усюды бачым шчыльныя рады моладзі ў чорных кашулях, а праз радыё чуем катэгарычныя, цьвёрдыя, вайсковыя прамовы павадыра. Моладзь слухае з поўнай верай у яго непамыльнасьць.

Італія здабыла сабе незалежны быт праз злучэньне паасобных італьянскіх краінаў пад Саўбадзкай дынастыяй (1859-1870. Павялічылася яна пасьля Сусьветнай Вайны (1919-1929), калі да Італіі быў далучаны Тыроль і некалькі далмацкіх вастравоў.

Прырода краю, спрыяючая гультайству, вечна галубое неба, пякучае сонца, вялікі рух турыстаў, якія псуюць люднасьць, сусьветны крызыс эканамічны, які не абмінуў і Італіі,—ўсё гэта пачало вытвараць псыхіку маладога пакаленьня паводле старой формулы, так характарыстычнай для жыхароў Італіі: „O dolce farniente“ (як салодка нічога не рабіць).

Сацыялістычныя кірункі, якія яшчэ да Сусьветнай Вайны праціснуліся ў Італію, стварылі партыю, у якой пасьля вайны знаходзіліся людзі ўжо аджыўшыя, на каторых ня можна было абаперціся. У 1921 годзе адбыўся конгрэс сацыялістычнай партыі, на каторым першы раз паявілася моладзь у чорных кашулях, вітаючаяся адкрытым рукам рукі.

Атракцыя для грамадзянства. Ясна-галубое неба і мора, ясны фон цэлага краю і чорныя маладыя людзі, ідучыя шчыльнымі радамі на барацьбу за новую магутную Італію. На чале чорных кашуляў павадыр—аподыктычны, цьвёрды, умеючы іграць на настроях натоўпу.

У хуткім часе Муссоліні з павадыра люмпэнпралетар'яту робіцца бажышчам італьянскае моладзі. Дапяў ён гэтага рознымі клічамі, як: „за магутнасьць Італіі!“, выстаўляючы скрайныя вэксалі, якія ніколі не рэалізаваліся. У палітычным лявіраваньні Муссоліні дайшоў да пэрфэкцыі і заўсёды ўчас умеў сканалізаваць тыя ці іншыя настроі ў сваёй рознашорстнай партыі. Вялікай заслугай Муссоліні бязумоўна тое, што ён патрапіў вырваць маладое пакаленьне з апатыі і дэмаралізуючага гультайства, навучыць яго працы і абавязавасьці.

Ізноў псыхіка натоўпу аказалася, як усюды, той самай: эфэкт, кантраст, навасьць—моцныя лёзунгі пацягнулі яе за сабой. На маладую думку наложаны абруч фашыстоўскіх формулаў; італьянскі нацыяналізм, паўстаўшы на абшарах, якія некалі былі калыскай рымска-эўрапейскай культуры, пазьней эпохі адраджэньня, узрос да годнасьці рэлігіі, якую прыняло сяньня ўсё маладое пакаленьне Італіі. Фашызм уводзіць таксама ў грамадзкае жыцьцё, выплываючую з успомненай нацыяналістычнай рэлігіі, грамадзкую этыку: „Хто проціў Італіі, той ёй вораг“ — і „Хто ня з Італіяй, той таксаме яе вораг“. Старыя, асьвечаныя традыцяй вякоў рымскія мэтоды атрымоўваюць грамадзкую санкцыю; італьянцы — гэта народ выбраны.

У такім містычным настроі фашысты на чале з сваім бажышчам Муссоліні асягнулі бязумоўна вялікія рэзультаты, асабліва ў галінах мілітарнай і гаспадарчай, і таму значэньне Італіі ўзрасло ў сьвеце. Пытаньне, ці асягненыя рэзультаты маюць моцныя асновы і ці варты яны ўсіх коштаў і ахвяраў, паложаных італьянцамі дзеля іх здабыцьця—пакідаю адкрытым. Затое сьмела можна сказаць, што ў духовым жыцьці Італія вельмі мала пайшла наперад. Маладое пакаленьне не дало амаль ніякіх новых вартасьцяў, бо яно фашызм не стварыла, а зьяўляецца толькі яго прыладаю. І тут, ў XX в., стагодняя барацьба за вольную людзкую думку мае сваю сумную бачыну. Але час зробіць сваё. Што ж станецца з натоўпам фашыстаў, калі ня стане павадыра, які дагэтуль думаў за ўсіх? Пачнецца рэакцыя, бунт доўга скаванай думкі, — моладзь захоча забраць голас. І чым даўжэй час будзе працаваць над зграмаджэньнем дынамічных сілаў, тым рэакцыя будзе мацнейшай.

У той час, калі на захадзе тварыліся маладыя кадры нацыянальных аргэнізацый; калі моладзь вучылі новаму катэхізму і новай маральнасьці,— маладое пакаленьне СССР консэквэнтна ўстаўлялася ў рамы камуністычнай доктрыны, адмяжоўвалася кітайскім мурам ад вялікіх уплываў буржуазыйнага захаду, які прадстаўляўся маладому пакаленьню, як рассаднік маральнага гнільля.

І тут выкарыстана містыка масаў, і тут павададыры камунізму ўмелі рознымі мэтодамі ўліць у маладыя душы веру ў камунізм, пераканаць, што камунізм гэта найлепшы грамадзка-палітычны кірунак; умелі ператварыць камунізм у рэлігію шматлікіх кадраў камсамольцаў, — якія на чале з сваімі павадырамі ўкладаюць шмат вартасьцяў у будову савецкае гаспадаркі. Эфэктаў бязумоўна многа, але моцнай абаснованай, творчай думкі, наймацнейшай спайкі дзяржаўнага арганізму, ня знойдзем. Жыцьцё сілай упіхаецца ў рамы доктрыны, а кожны спраціў, выкліканы хоць-бы самымі рацыянальнымі патрэбамі жыцьця—вядзе выключна ў турму. Уся савецкая дзяржава сталася вялікай турмой маладой думкі. Савецкія павадыры, раземеючы добра неабходнасьць духовых патрэбаў моладзі, асабліва, калі гэта моладзь жыве ў цяжкіх эканамічных варунках, змушаны былі, апрача міжнародных лёзунгаў, даць ёй больш блізкі і рэальны ідэал. Гэтым ідэалам робіцца расейскі нацыяналізм. Аб камсамольцах можна сяньня сьмела сказаць, што яны робяцца нацыяналістамі, і не беларускімі ці ўкраінскімі, а выключна расейскімі, якія імкнуцца да магутнасьці расейскай савецкай дзяржавы.

Ці нацыяналізм гэты зьяўляецца творам моладзі ані так, ані не. Зьяўляецца ён вынікам натуральнага права, каторае аказваецца сільнейшым ад доктрыны. Збудаваная супольнымі сіламі гаспадарка зьяўляецца бязумоўна заслугай маладога пакаленьня. Моладзь галадаючы і мерзнучы будавала яе ў часы пяцілетак і цяпер яшчэ будуе новыя варштаты працы. Ясна, што кожная, так цяжка здабытая будова, становіцца найдаражэйшым творам усіх, нечым блізкім—і адсюль любоў да ўсяго гэтага і першая крыніца нацыяналізму, якую узмацоўвае гістарычна-грамадзкі працэс. Адкажа мне на гэта чытач, што у СССР апрача расейцаў ёсьць шмат іншых нацыянальнасьцяў, у якіх таксама разьвіваецца нацыяналізм. Так. Але ўсе гэтыя нацыянальныя імкненьні іншых народаў прасьледуюцца савецкім урадам, які нґдае ім у рамах СССР матэр'ялістычныя паняцьці, вынікаючыя, зразумела, з языковых розьніцаў. Саветы процістаўляюцца ўсякай нацыянальнай акцыі нерасейскай, даючы ёй міжнародныя клясавыя ідэі.

Але Саветаў чакае тое самае, што захад. Ужо цяпер выбухаюць у СССР ад часу да часу бунты. Урад пакуль што лёгка дае сабе з імі раду і ўсякі спраціў жорстка душыць, але прыйдзе бязумоўна час, калі ўся моладзь забярэ голос і тады крэмлеўскім дыктатарам прыдзецца скапітуляваць.

(Працяг будзе).

# Пісьмо у рэдакцыю.

Урад Беларускага Студэнскага Саюзу пры У. С. Б. у Вільні гэтым мае гонар ветліва прасіць П. Т. Рэдакцыю зьмясьціць у найбліжэйшым нумары Вашае часопісі далучаную пры гэтым падзяку:

ПАДЗЯКА.

Урад Баларускага Студэнскага Саюзу пры У.С.Б. у Вільні гэтым складае шчырую падзяку Гр. Гр. Бэкешавай, Кульчыцкай і Ярэмічавай за ласкавае прыняцьце на сябе абавязкаў Гаспадыньаў ад Б.С.С. і адначасна за дзейны ўдзел у зладжаньні дня 2. III. 1935 г. VI Традыцыйнага Балю трох Студэнскіх Саюзаў (Бел. Літ. і Украінскага).

(—) *М. Шчорс*
старшыня.

(—) *А. Дасюкевіч*
сэкрэтар

## Пашырайце нашу газэту.

# 25-лецьце беларускага тэатру.

У гэтым годзе беларускае грамадзянства сьвяткавала культурны юбілей 25-лецьця беларускага тэатру. З нагоды юбілею быў наладжаны адумысна створаным Арганізацыйным Камітэтам спэктакль-вечар, 17.III. г. г., на якім быў прачытаны рэфэрат аб тэатры, пастаўлены п'есы Фр. Аляхновіча „Цені“ і „Чорт і баба“, а таксама выканаы нацыянальныя скокі і народныя песьні.

Роўна 25 гадоў таму назад, 25-га лютага (н. ст.) 1910 г. адбылося ў Вільні першае беларускае прадстаўленьне. Група беларусаў, згуртаваных пераважна каля „Нашай Нівы“, зарганізавала ў салі Жалезна-дарожнага Клюбу (на цяперашняй вул. Домброўскага) беларускі спэктакль-вечар. У праграму вечару ўвайшлі: перакладзеная з украінскае мовы п'еса Крапіўніцкага „Па рэвізіі“, беларускія песьні ў выкананьні хору пад кіраўніцтвам Л. Рагоўскага і нацыянальныя танцы, якімі кіраваў І. Буйніцкі [1]).

Саля Жалезнадарожнага Клюбу (цяпер гмах Літоўскай Гімназіі) была перапоўнена па берагі. На салі відаць было публіку розных нацыянальнасьцяў, асабліва шмат афіцэрства і ўрадоўцаў, якія не баяліся гаварыць пабеларуску. Адзін з учасьнікаў спэктаклю прыпамінае, што калі яму трэба было прайсьці са сцэны праз салю, то гэтага зрабіць яму не ўдалося і ён мусіў абыходзіць навакола праз карыдор. Некаторыя з прысутных налічываюць на спэктаклі звыш 1000 асоб.

Вечар пачаўся а палова дзевятай гадзіны. „І паліліся хвалі тонаў песьні перад заціхшай 'у салі тысячнай грамадой.,. Чутно было ў песьні не разгул вялікароса з пад Волгі, ня бойкую гульню паляка, але замкнутую ў сабе самой душу нашага беларуса з лясіста-балоцістай старой нашай бацькаўшчыны... Уся саля стала быццам бурным морам народным, уся траслася ад клікаў: „браво! браво! беларусы!“[1])

Асаблівае ўражаньне на публіку зрабілі танцы, якія былі надзвычай памастацку выкананы, дзякуючы працы Ігната Буйніцкага (памёр у 1917 г.). Былі выкананы: лявоніха, мяцеліца, юрка і верабей. „Трэба прызнацца, што яны ўдаліся на хвалу! Публіка проста адурэла... Ажно ў вачох зіхацела, як ішлі лявоніху, мяцеліцу, або як 10 пекна прыбраных пар захвіваліся доўгім хвастом у „вераб'і“ [2]).

Гэтае першае прадстаўленьне ня толькі ў Вільні, але і на ўсёй Беларусі мела вялікі ўплыў на далейшае разьвіцьцё беларускае сцэны і таму мы яго лічым пачаткам сучаснага Беларускага Тэатру.

Праўда, у пачатку другой паловы XIX ст. у Менску (у 1852,3,5 гадох) стаўлялася „Сялянка“ В. Д. Марцінкевіча [3]), аднак прадстаўленьне гэтае было эпізодам, ня мела выразнага нацыянальнага характару (сама „Сялянка“ напісана ў польскай і беларускай мове) і ня выклікала, дзякуючы склаўшымся палітычным умовам, (забарона беларускага друку ў 1863 г.) далейшага разьвіцьця тэатру.

Памінаючы ўсьведамляючы ўплыў, які мела першае прадстаўленьня, на віленскае грамадзянства, адзначым перадусім, што яно зрабіла вялікае ўражаньне на правінцыі. Беларусы пачынаюць то тут, то там ладзіць спэктаклі. Адчуваецца патрэба тэатру. Адраджэньне пачынае ахопліваць шырокія народныя масы і тэатр спаўняе вялікую ролю, як праваднік нацыянальнага ўсьведамленьня.

Ужо ў той самай Вільні, пад уплывам першага прадстаўленьня, група беларусаў расейскай орыентацыі, згуртаваная каля газэты „Крестьянинъ“, ладзіць у 1911 г. у Мястовай Салі беларускі спэктакль, на якім была пастаўлена п'еса К. Вясёлага: „Ня розумам сьцяміў, а сэрцам.“ [1]) Цікава, адзначыць, што ролю бацькі ў гэтай п'есе іграў „іспраўнік“ на Віленска-Троцкі павет, п. Б. Н. Дункель.

У тымжа 1910 годзе адбываецца беларускі спэктакль у Пецябурзе (у сакавіку); пастаўлена была тая-ж п'еса „Па рэвізіі“, выпаўнены танцы і дэклямацыі (дэклямавала, між іншым, свае вершы Цётка) пачынаецца тэатральны рух. У іншых мяйсцовасьцях (Слуцк, Горадня) таксама арганізуюцца беларускія спэктаклі. У жніўні 1910 г. аб'ездны тэатр І. Буйніцкага ладзіць прадстаўленьне ў Дзісьне, выклікаючы этуз'ястычнае захопленьне публікі [1]) Некаторыя людзі, паводле слоў карэспандэнта „Нашай Нівы“, проста плакалі.

Рэпэртуар тэатру быў наагул вельмі ўбогі [2]). Дзеля гэтага беларускія пісьменьнікі, разумеючы вялікае значэньне тэатру, пачынаюць часта пісаць спэцыяльна для тэатру.

У 1911 годзе ў Вільні ўтварыўся беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток дзякуючы высілкам артысты Буйніцкага і іншых асоб, якія прыдавалі тэатру вялікае значэньне. Муз.-Драм. Гурток з посьпехам працуе да 1915 году [3]) Пачалася ваенная разруха, а з ёй на пэўны час замёр і тэатр.

Аднак ужо ў 1915 г., калі Вільню занялі немцы, беларусы пачынаюць ізноў гуртавацца. Закладаецца Беларускі Клюб, які ў хуткім часе і стаўся на некалькі гадоў тэатральным вогнішчам. Душой тэатру становіцца вядомы драматург Фр. Аляхновіч, які арганізуе аматарскую трупу.

15 кастрычніка 1916 г. адбываецца, пасьля перарыву, першы спэктакль пад рэжысэрыяй Фр. Аляхновіча. У 1916 і 1917 г. г., можна сказаць, быў сталы беларускі тэатр, бо прадстаўленьні ў Клюбе адбываліся вельмі часта. Фр. Аляхновіч сваімі п'есамі значна ўзбагачае тэатральны рэпэртуар.

Каля гэтага часу паўстае другі тэатральны беларускі цэнтр, у Менску. 19-га мая 1917 г. было заложана ў Менску „Першае Т-ва Беларускае Драмы і Камэдыі“ Т-ва залажылася тады, калі стала магчыма арганізавацца. Галоўнай

[1]) Праграма вечару і Фр. Аляхновіч „Беларускі Тэатр“, Вільня, 1924, стр. 87-88.

[1]) „Наша Ніва“, 1910 г., № 8.
[2]) „Наша Ніва“ 1910 № 8.
[3]) Абшырней аб гэтым гл. артыкул Р. Земкевіча „Станіслаў Манюшка і Беларусы“ („Бел. Жыцьцё“ 1920 № 1).

[1]) Сапраўднае прозьвішча аўтара Аўдзей Вікенці Е. Карскі „Бѣлорусы“ т. III (стр. 376) падае, што ён быў забіты ў 1917 г. у Карпатах. Паводле больш праўдападобных вестак ён застрэліўся.

[1]) „Наша Ніва“, 1910 г. № 40.
[2]) Гл. „Фр. Аляхновіч“, op. cit. стр. 96.
[3]) 25.I.1915 г было зладжана апошняе прадстаўленьне ў Вільні; была пастаўлена п'еса В. Д. Марцінкевіча „Залёты“.

# Зьніжка цэн на збажовыя прадукты.

Апошнімі днямі пачалі зьніжацца цэны на збажовыя прадукты.

Цана жыта, у залежнасьці ад якасьці, хістаецца між 12 зл. 75 гр. і 14 зл. 50 гр Цана аўса таксама абнізілась, бо вайсковыя інтэндэнтуры ўстрымаліся ад закупаў. Збыт на збажовых рынках даволі вялікі пры вельмі малым попыце, што зьяўляецца найгалаўнейшай прычынай зьніжкі цэн. Цана пшаніцы, якая, у сувязі з надыходзячымі сьвятамі, падлягае большаму попыту, пакуль што на папярэднім роўні.

# З беларускага жыцьця.

— *Сьвяткаваньне Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.* У сувязі з прыпадаючымі 17-мі ўгодкамі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, у панядзелак, 25.III. г. г. а 11 гадз. адбудзецца ў Пятніцкай царкве ў Вільні ўрачыстае набажэнства.

Увечары, а 19-й гадз. у залі Віленскай Бел. Гімн. (Вострабрамская 9) адбудзецца ўрачыстае супольнае паседжаньне прадстаўнікоў Т-ва Бел. Асьветы, Дырэкцыі Гімназіі, Бацькоўскага Камітэту пры гімназіі і Бел. Студ. Т-ва імя Ф. Скарыны, на якім гр. Ільяшэвіч прачытае рэфэрат на тэму: „Акт 25.III. 1918 г". Пасьля рэфэрату хор і вучнёўскія дэклямацыі.

— У нядзелю 17 сакавіка г. г. у залі Кансэрваторыі, беларускае грамадзянства сьвяткавала 25-я ўгодкі беларускага тэатру. Як ведама, першы беларускі спэктакль адбыўся ў 1910 г. у Вільні. Народу на сьвяткаваньне сабралося шмат, найбольш моладзі. На пачатку быў прачытаны рэфэрат аб разьвіцьці беларускага тэатру за апошнія 25 гад. Пасьля рэфэрату былі згуляны 3-ці акт драмы Ф. Аляхновіча „Цені" і камэдыя таго-ж аўтара „Чорт і баба". Гулялі артысты няблага, але як на такое ўрачыстае сьвяткаваньне можна-б было выбраць рэчы больш адпаведныя. У канцы хор прапяяў некалькі беларускіх народных песьняў, а вучні беларускай гімназіі пратанцавалі Лявоніху, падчас якой іграў вучнёўскі струнны аркестр. Перад выступленьнем хору прадстаўнік студэнцкага саюзу прывітаў пісьменьніка Ф. Аляхновіча.

Хор пад кіраўніцтвам гр. Р. Шырмы, як заўсёды, чараваў сваімі песьнямі слухачоў. Вельмі добра была выканана Лявоніха. Трэба сьцвердзіць, што бяз хору і танцаў сьвяткаваньне прайшло-б вельмі бледна.

Відаць, што ў сьвяткаваньні прымалі ўдзел віленскія беларусы розных напрамкаў, але трудна было дагадацца, хто зьяўляўся сапраўдным арганізатарам сьвяткаваньня. Мусіць з гэтае прычыны і агульны настрой сьвяткаваньня быў нейкі нявыразны, ды і самая праграма вечару выконвалася без належнага запалу, без энтузіязму. Здавалася, што ўсё робіцца як-бы пад прымусам і само сьвяткаваньне ня мела таго ўрачыстага характару, які-б мець павінна. *Н.*

*Агульна-гадавы сход БСС.* 17.III 35 г. адбыўся агульны гадавы сход сяброў БСС у Вільні. Новавыбраны Урад Бел. Студ. Саюзу складаецца з наступных асоб: старшыня М. Шчорс, віцэ старшыня М. Якімец, сэкрэтар А. Дасюкевіч, скарбнік П. Засім і гаспадар С. Сарока. У Рэвіз. Камісію увайшлі: старшыня Яз. Бурак, сябры Т. Мацьвеява і В. Войтэнка.

На сходзе было прынята некалькі папраўак статуту БСС. Калісь, у сувязі з паўстаньнем К! Скарыніі ў статут БСС быў унесены параграф. забараняючы сябром Саюзу належаць да Карпарацыяў. Нетолеранцыйны і недарэчны параграф гэты быў скіраваны ясна супроць К! Скорыніі. Недарэчнасьць яго палягала на тым, што сябром саюзу да *беларускай* карпарацыі ня можна было належаць, а да розных *польскіх* арганізацыяў належаць не забаранялася. Нясуразнасьць гэная цяпер усунена. Апрача гэтага сход зацьвердзіў колеры Саюзу і пастаноўлена зрабіць адпаведны саюзны сьцяг.

Увосені маюць быць урачыста адсьвяткаваны XV угодкі існаваньня Саюзу.

*Адкінута канфіската „Калосьсяў".* У пачатку бяг. году ў Вільні пачала выходзіць навукова-літэратурная часопіс п. н. „Калосьсе". № 1 гэтае часопісі быў сканфіскаваны, аднак на днях суд канфіскату гэную не зацьвердзіў

# Заграніцай.

× **Сьвяткаваньне 85 угодкаў Т. Г. Масарыка.** 7-га сакавіка г.г. прэзыдэнту Чэхаславацкае Рэспублікі споўнілася 85 гадоў.

Усё чэхаславацкае насяленьне, бяз розьніцы нацыянальнасьці, урачыста сьвяткавала гэтыя ўгодкі свайго прэзыдэнта, вялікага чалавека і шчырага дэмакрата

× **У Чэхаславакіі**, у сувязі з жорсткімі падатковымі эгзэкуцыямі, дайшло ў некаторых паветах і валасьцях да паважных разрухаў. Урад сконцэнтраваў у гэтых мясцовасьцях войска. Шмат асоб арыштавана.

× **У Саветах**, новы камісар жалезных дарог Кагановіч выдаў распараджэньне ў справе барацьбы з чыгункавымі катастрофамі. Паводле аблічэньняў у мінулым годзе на савецкіх чыгунках было 6200 катастрофаў, у якіх згінула некалькі сот асоб і зьнішчана 64.000 вагонаў і 7000 паравозаў.

× Паводле вестак, атрыманых польскімі газэтамі ад „Тасс'а", у **Ленінградзе** апошнімі днямі арыштавана і выслана ў усходнюю частку СССР 1074 асобаў за „неблагонадежность".

× **Францускі ген. Моррэн** зварочвае ўвагу Францыі на тое, што раптоўны напад Нямеччыны, асабліва ў 1936 г., паставіў-бы Францыю ў вельмі цяжкое палажэньне. Каб лепш пацьвердзіць свае словы, Моррэн падчыркнуў той факт, што Нямеччына выпускае ў сучасны мамэнт **15 аэраплянаў у дзень і 400 матораў у месяц і што ў ліпню 1936 г. Нямеччына будзе мець 1500 бомбавозаў**.

× Як паведамляюць з Токіо, ген. Ф. Сэкт, які два гады прабываў у **Нанкіне**, як арганізатар кітайскай арміі, — вяртаецца ў Эўропу. Паварот яго выкліканы аканьчэньнем прынятай ім місыі.

Ф. Сэкт зьяўляецца запраўдым тварцом Рэйхсвэру. У 1926 г., у выніку канфлікту, пакінуў ён чынную службу ў арміі і пазьней паехаў у Кітай.

× Як паведамляюць з **Рыму**, Папа Рымскі канчае працы над новай энцыклікай аб неабходнасьці захаваньня міру. У гэтай энцыкліцы прынята пад увагу сяньняшняе міжнароднае палажэньне.

× Бэрлінскі корэспондэнт „Ажанс Экономік Фінансьер" паведамляе, што ў зробленым па загаду Рузвэльта дакладзе аб палітычным, эканамічным і фінансавым палажэньні Нямеччыны пасольства Злучаных Штатаў у Бэрліне прыйшло да наступных вывадаў:

**Надзеі на спакойную эвалюцыю нямецкай палітыкі беспадстаўныя.** Эканамічнае палажэньне Нямеччыны вельмі цяжкое і можна чакаць фінансавага краху.

У дакладзе падчырківаецца нарастаньне пагрозы вайны ў Эўропе.

# Журналіст.

Худзенькі журналіст, у зношаным пальце, уваходзіць у рэдакцыю беларускае газэты.

— А, Іван Сымонавіч! Добры дзень!—трасе яго за руку рэдактар.

— Ну, як? Прынесьлі атрыкул?

Іван Сымонавіч кладзе павольна перадваенны мэлёнік і выймае з кішані друкаваны на машыне артыкул.

Рэдактар прабягае быстрымі вачыма напісанае і ў пэўных месцах усьміхаецца. Іван Сымонавіч уважна і пільна пазірае на рэдактара і ў выражэньні яго твару бачыць ужо запэўнены ганарар.

— Браво! Браво!—захапляецца рэдактар. — Моцна напісана. Артыкул — шыкарны! Так і трэба гэтую чорную сотню! Гэта-ж—недапушчальныя рэчы — людзі, ня маючыя нічога супольнага з нашым народам і краем, нейкія эмігранты-манархісты, пачынаюць...

Рэдактар ад злосьці ня мог скончыць. Іван Сымонавіч чуха разьвітываецца. Яшчэ раз ён прыпамінае, каб не выяўлялі яго прозьвішча.

— Ну, адносна гэтага будзьце пэўныя—запэўняе рэдактар — ні мур-мур... Журналіст у зношаным пальце намацывае для пэўнасьці квіт на грошы за артыкул і паволі зьнікае ў туманных вуліцах.

Праз пару дзён гэрой нашага апавяданьня заходзіць у рэдакцыю расейскай газэты.

— А, Іван Сымонавіч! Добры дзень—вітае яго парасейску рэдактар. —

— Што-ж чуваць?

Іван Сымонавіч паволі кладзе на крэсла перадваенны мэлёнік і паволі пачынае гутарку.

— Ці вы чыталі — кажа ён — што ў беларускай газэце напісана пра вашу групу? Гэта-ж, ведаеце, ніжэй...

Іван Сымонавіч стараецца інтэлігентна абурацца і трасе барадой — гэта... ніжэй усялякай крытыкі. Іван Сымонавіч працягівае газэту з адмечаным чырвоным алавіком артыкулам.

Рэдактар чытае й з абурэньня ня можа знайсьці адпаведных слоў.

— С. С... Сволачы — урэшце прарываецца ён.—Гэта—немагчыма! гэта—недапушчальна!...

А пасьля ветліва зьвяртаецца да журналіста і просіць яго:

— Іван Сымонавіч! Па знаёмству... Чырканіце на гэтых прахвостаў...

Іван Сымонавіч выймае артыкул і спакойна кажа:

— Я вось ужо маю. Напісаў. Трэба-ж іх правучыць, гэтых нягоднікаў...

Рэдактар з задаваленьня пацірае рукі й цалуе Івана Сымонавіча.

Ганарар пэўны.

— Але вы... ні слова, што гэта я—міргае вачыма журналіст.

— Ні шу-шу... — запэўняе рэдактар. Журналіст мінае пару крывых, пару вялікіх вуліц і ўваходзіць у свае памешканьне. Ён скідае зношанае пальто і з задаваленьнем уваходзіць у пакой. Залажыўшы нагу за нагу, сядзіць журналіст на канапе. Іграе патэфон. З кухні даносіцца бразгаценьне судзьдзя. Служанка гатовіць вячэру. У суседнім пакоі жонка напявае пад плыту.

Перад Іванам Сымонавічам — газэты: „Беларускае жыцьцё" і „Расейскае жыцьцё".

Іван Сымонавіч з цікавасьцю чытае свае артыкулы.

Пабеларуску:

„Гэтыя падшыванцы, якія нясуць нам так званую вышэйшую культуру, імкнуцца надалей трымаць наш народ у цемры й прыгнечаньні, а адначасна карміцца нашымі творчымі сокамі...

Парасейску:

„Кучка ідэалістаў хоча надзяляць народ, які і гісторыяй, і мовай, і верай злучан з расейскай нацыяй...

Івану Сымонавічу прыпамяталася, як ён гімназістам любіў іграць сам з сабой у шахматы. І як падобна гэтая газэтная перастрэлка да такое ігры... Журналіст усьміхнуўся.

Журналіст зацягнуўся папіроскай.

— Люба! — клікнуў ён жонку — пойдзем у тэатр.

Яны апрануліся ў элеганцкія шубы й рытмічна зышлі па сходах.

*М. Дальны.*

Рэдактар: Мгр. пр. М. МАРКЕВІЧ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.